Я. Колас

# Савось распуснік.

Д. В. Б.







I

Вось што, дзеткі, мае краскі:
Што хадзіць за многа міль?
Можа, лепей замест казкі
Расказаць вам адну быль?

Згодны?
Добра!
Ну дык вось.

Зваўся хлопчык наш Савось.
Ой, і быў-жа ён дурасlівы!
У сад лазіў па грушы, па **слівы**,
Дзіркі ў градах рабіў—
Моркву сцібрыць любіў,
І маку ён скручваў галоўкі,—
Ну, на гэта быў страх які **лоўкі**!





А рукі ў яго не мыты,
Нос не абцёрты,
А сам ён сярдзіты,
Такі задзірака,
Такі забіяка,
Буян,
Грубіян.



Зачэпіць старога,
Пакрыўдзіць малога,
Такі ўжо нягоднік,
Да гэтакі шкоднік.
Бегаў загуменнямі,
Кідаўся каменнямі,
Пападаў у шыбы—
Хоць гані з сялібы!



Меў на зло смякалку,
Зніме з вежы галку,
І такі гарачка,
Няхай яго качкі!



II

У Савосева суседа
Быў пярэсценькі каток,
Выхаванец Паўла-дзеда,
Такі слаўны пестунок:



Нос чарнявы,
Хвост бялявы,
Задзірасценькі,
Кіпцік-шчыпчык
Заграбасценькі,
Лапкі-драпкі
Машастовыя,
А шарсціначкі
Шаўковыя,
Губкі, зубкі
Адмысловыя,
Вусы-русы
Патырчастыя,
Тая спінка,
Як націнка,
Выгінастая,
Вушкі-служкі
Не мыляюцца,
Вочкі ў ночку
Запаляюцца.

Ну, такі каток харошы,
Як драпянка за тры грошы.
Хадзіў коцік пад масток,
Лавіў рыбку за хвасток,



Потым дзеду ён на печы
Казкі-байкі варкаваў,
Белым хвосцікам дарэчы
Тахты спевам адбіваў.
Коцік з дзедам жыў у згодзе,
Не сварыліся за печ.

Быў раз коцік на паходзе—
На мышэй падняў ён меч.
Шоў каток з паходу,
Разагнаўшы мышак,

І сеў на калоду
Пад страху ў зацішак.
Грэе сабе спінку,
Мордачку і лапкі.

Зірк—Савось з будынку
Выскачыў без шапкі.
За Савосем—Рудзька.

— Кусі ката, цюцька!
Коцік бедны ўвесь жахнуўся,
Ды на шчасце быў тут плот,
А пры плоце дуб, і кот





Толькі фыркнуў, мільгануўся
І на дубе апынуўся.

Сеў каток
На дубок,

Кажа забіякам:
Эх, Савось, шалапай,
Ты мяне не чапай
І не цкуй сабакам.

Не ўдалося Савосю
Катка падкусіць
І прышлося Антося
На помач прасіць

III

Вось Савось
І Антось
Сталіся дружакі,
Каля клуні стаяць,
Штось ліхое таяць—
Радзяцца, вужакі,
Як злавіць ім катка
І аддаць з малатка
Рудзьку на расправу.
Падшывальцы-ж яны,
І іх розум дурны
Выдумаў забаву.
А па той нарадзе
Саўка торбу крадзе,
Анцік — хлеб сабаку.
А каток на печы
Сеў, як той старэчы,
Яму і няўзнаку.

Эх, пярэсценькі каток!
Сцеражыся ты, браток!



Не хадзі ты па надворку,
Не хадзі гуляць за горку —
Там бяда цябе чакае,
Сам не ведаеш якая.
Асцярожненька хадзі,
За Савосем ты глядзі,
Бо Савось замысліў штось,
Нездарма з ім і Антось.





Затаіўся ў кутку
Наш Савось і катку
Замаўляе зубы
Для кацінай згубы:
„Ах ты, коцічак мой!
Які файны ты, ой!
Што за спіначка,
Ну, карцінaчка!
Ідзі, коцік, да мяне,
Не пакрыўджу цябе, не.
А якія вочкі!
Бачаць сярод ночкі!
А якія лапкі!
Ды як яны цапкі!

Ах ты, мой каточак,
Чорненькі насочак!
Ідзі-ж, коцік, да мяне:
Не пакрыўджу цябе, не.
Мяўкнуў коцік, выгнуў спінку
Хвост падняў, як корбу,
Але ў тую-ж хвілінку
Шусь каток у торбу!



IV

І панеслі катка ў поле.
А там чыста—ні кусточка,
Ні хваінкі, ні дубочка,
Адны межачкі ды ролі.
Няма дзе катку схавацца:
Чуць сінее лес далёкі,
І сяло за тры валокі,—
Як катку там ратавацца?
Плача ў торбе коцік, плача:
„Мяў, мне душна! Мяў, мне цесна!
Б'ецца сэрцайка балесна,
Бо мне грозіць смерць, няйнача".
Кот бурчыць і гурчыць,
Лапамі дзярэцца,

А Савось хоць-бы што—
Цешыцца, смяецца.
— Ну, спыніся, Антось,
Патрымай сабаку:
Толькі выпушчу ката,
Цкуй тады ў атаку!
Адышоўся Савось,
Анцік прытаіўся,
І тут коціку астрог
Раптам адчыніўся.
З торбы выскачыў, прысеў—
Трэба-ж разглядзецца.
Зірк—там Рудзька! Што рабіць?
Дзе яму падзецца?

— Цкуй! пускай!—крычыць Савось.
— Кусі ката, Рудзька!..
Ша! чаго-ж так закрычаў
Наш Савось нялюдска?



Глянуў Анцік—вось дзівота!
Вось дзе ліха, вось бяда!
Што зрабіла ім дурота
І што сталася з ката!
Вось папаліся дзе змоўцы—
Проста шкода малышоў:
На Савосевай галоўцы
Коцік схованку знайшоў.
Лемантуе бедны Саўка,—
Ашалелы, чуць жывы,

Кот упіўся, ну, як п'яўка,
І не знімеш з галавы.
Запусціў капцюр у скуру
Аж да самае касні.
Скача Саўка з таго дуру
Ды крычыць: „Пусці! пусці!"
Рудзька верціцца навокал,
Брэша, цапае катка.
Ай, Савоська, ты мой сокал!
Справа дрэнна і брыдка!



Ой, нагараваліся,
Ой, бяды набраліся
Хлопцы з тым катом!
З поля як вярталіся,
Людзі з іх смяяліся,
Тыкалі пярстом.

Шоў Антось уперадзе,
Рудзьку вёў на прывязі,
Пазіраў уніз,
А Савось на водшыбе,
На галоўцы з коцікам,
Шэпчучы: „кіс-кіс“!

І хоць ён не піонер,
А чырвоны меў каўнер.



